


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 6(676)**
**Чэрвень 2022 г.**


# Дабрачынная імпрэза і аўкцыён ў падтрымку беларускіх змагароў ва Ўкраіне

1 траўня 2022 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшла дабрачынная імпрэза па зборы сродкаў для беларускіх змагароў ва Ўкраіне. Імпрэза была арганізаваная Парафіяльнай Радай Сабору і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем разам з Фундацыяй Крэчаўскага і Беларускай Асьветніцкай Лігай Амэрыкі. Імпрэзу вяла старшыня БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка.

Напачатку выступіў старшыня парафіяльнай рады сп. Аляксандар Хомчанка. Ён распавёў пра падтрымку беларусаў Нью-Ёрку і Амэрыкі ўкраінцам і беларускім ваярам ва Ўкраіне. "Дасюль было сабрана каля 20 тыс. даляраў, але з улікам таго, колькі яшчэ патрэбна дапамогі ва ўмовах вайны – гэта ўсяго толькі кропля ў моры. Тым ня менш мы будзем рабіць тое, што залежыць ад нас".

Наступнай выступіла старшыня Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі сп-ня Ірына Хадарэнка. Яна сказала, што цяпер Украіна і Беларусь перажываюць нялёгкія часы. Беларусь стала ахвярай расейскай акупацыі, і зь яе тэрыторыі расейскі пуцінскі рэжым распачаў злачынную вайну супраць Украіны. А Ўкраіна стала ахвярай рэваншысцкага пляну пуцінскай хэўры па акупацыі земляў, што некалі былі ў СССР, і вайна там ідзе яшчэ з 2014 году, але цяпер яна ўвайшла ў асабліва небясьпечную фазу, калі на карту пастаўлена самое існаваньне Ўкраіны як незалежнай дзяржавы. І калі Беларусь цяпер перажывае этнацыд – перасьлед мовы й культуры, ліквідацыю праяваў усяго нацыянальна беларускага, дык ва Ўкраіне адбываецца сапраўдны генацыд украінскага народу, і ягонае фізычнае вынішчэньне. Таму Ўкраіна і Беларусь павязаныя гістарычным лёсам, сёньня яшчэ мацней злучаныя пагрозаю з боку расейскага імпэрыялізму і ягоных паслугачоў – Лукашэнкі ды розных калябарантаў ЛДНР. Нам трэба найперш не дапусьціць, каб нашая нацыя асымілявалася, распусьцілася ў "рускім міры". Таму нашыя хлопцы ў вайсковых фармаваньнях, якія змагаюцца за свабоду Ўкраіны – змагаюцца таксама за Беларусь і яе будучыню. Калі выстаіць і пераможа Ўкраіна, тады і Беларусь наблізіць сваю перамогу. Прамоўца прачытала свой верш "Халоднае лязо вайны", дзе ёсьць такія радкі: "Гісторыі гаркавы дым нам засьціць вочы – хіба мы марылі аб тым, каб гніць на ўзбоччы?" і "Пракляты двойчы той, хто гвалціць душы".

Затым з кароткай справаздачай аб папярэдніх высілках па зборы сродкаў выступіў сп. Андрусь, які падкрэсьліў, што экіпіроўка жаўнера сёньня каштуе нямала, патрэбныя і бронекамізэлькі, і аптэчкі, і прылады начнога бачаньня, і шмат што яшчэ. І беларускіх байцоў таксама большае, акрамя батальёну Каліноўскага ёсьць аддзел "Пагоня", атрад імя Ільлі Літвіна, і беларусы ў іншых частках Збройных Сілаў Украіны (ЗСУ).

Ад БАЗ "Пагоня" выступіў старшыня сп. Віталь Зайка. Ён дазначыў, што цяпер Украіна змагаецца ня толькі за сваю незалежнасьць, але і за будучыню ўсёй Эўропы, і Вольны Сьвет пачынае гэта разумець, нажаль, з пэўным запозьненьнем, пераходзіць да сур'ёзнай падтрымкі змаганьня ўкраінцаў праз дапамогу цяжкім узбраеньнем і наступальнымі сыстэмамі. Ад выніку змаганьня Ўкраіны залежыць таксама і лёс Беларусі, і таму мы мусім зрабіць усе намаганьні для таго, каб Украіна перамагла, і каб наступнай стала перамога свабоды ў Беларусі. Прамоўца падзякаваў арганізатарам імпрэзы за іхную працу і заклікаў прысутных пашыраць інфармацыю пра збор сродкаў.

Потым выступілі сп-ня Лада Хомчанка і сп. Артур Згураў ад арганізацыі RAZOM for Ukraine. Прысутныя ўшанавалі хвілінай цішы памяць беларусаў, што аддалі свае жыцьці за свабоду Ўкраіны і за набліжэньне свабоды для нашай Бацькаўшчыны.

Затым пачаўся дабрачынны аўкцыён, які праводзілі сп-ні І. Хадарэнка і В. Трыгубовіч. Сярод аўкцыянаваных рэчаў былі творы мастацтва і кнігі, якія перадаў у Фундацыю Крэчаўскага сп. Багдан Андрусышын (Данчык). Усе лоты былі даволі актыўна аспрэчваныя прысутнымі і добра прадаваліся.

Пасьля прайшоў невялічкі канцэрт, дзе засьпяваў сп. Сяржук Сай пад акампанэмэнт гітары сп. Уладзімера Косака. Яны выканалі чатыры песні: "Маніфэст" на верш І. Хадарэнкі, украінская "Ой, у лузі червона калина", а таксама "Ой, сівы конь бяжыць" і "Купалінка". Напрыканцы імпрэзы ўдзельнікаў чакалі пачастункі. Затым перад будынкам Сабору, каля помнікаў Тадэвушу Касьцюшку і Кастусю Каліноўскаму, прайшла сымбалічная акцыя за вызваленьне палітзьняволеных у Беларусі.

Падчас дабрачыннай акцыі ўдалося сабраць каля трох тысяч даляраў. Грошы пойдуць на патрэбы беларускіх дабраахвотнікаў, што ваююць ва Ўкраіне. Шчыры дзякуй усім, хто ўзяў удзел і працягнуў руку дапамогі.

Дарэчы, да збору сродкаў можна далучыцца, зрабіўшы ахвяраванне на PayPal: ***drabandrus@gmail.com***.

***Віталь ЗАЙКА***



## Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Гальперн Лейвік - паэт на ідыш



Лейвік Гальперн, выбітны гэбрайскі паэт на ідыш, які абраў сабе псэўдонім Г. Лейвік, нарадзіўся ў 1888 годзе ў мястэчку Ігумен, цяпер Чэрвень. Ён быў найстарэйшым у шматдзетнай сям'і, дзе было 9 дзяцей. Бацька быў нашчадкам славутага менскага рабіна "Шаагат-Ар'е", працаваў настаўнікам падставовых рэчаў для дзяўчынак, а маці была пекаркай. Лейвік да 9 год вучыўся ў "хэдары" (прыватнай гэбрайскай школцы) і затым працягнуў адукацыю ў ешыботах (сэмінарыях), перш у мястэчку Беразіно, і затым у Менску. Падчас вучобы Лейвік азнаёміўся з тагачаснай літаратурай на старагэбрайскай мове (іўрыце), якая падпольна пашыралася сярод вучняў, і сам пачаў пісаць на іўрыце вершы. Гэтым ягоны літаратурны шлях нагадваў шляхі папярэднікаў і землякоў – Мэндэле, які стаў "дзядулям ідыш-літаратуры" і таксама пачынаў на іўрыце, Зьмітрака Бядулі-Плаўніка, які пачынаў на іўрыце й ідышы й перайшоў на беларускую, і Янкі Купалы, які пачынаў на польскай і расейскай.

Сярод заняткаў таго часу, акрамя вучобы, Левік працаваў парабкам у гэбрая-земляроба ў вёсцы Дамовіцк, дапамагаў матцы, калі яна пераехала ў Мікадаеў і адчыніла там пякарню. Ва ўзросьце 17 год Лейвік далучыўся да гэбрайскай сацыялістычнай партыі Бунд, і там пачуў вершы і сьпевы на ідыш. Ён браў удзел у агітацыі, арганізаваньні страйкаў. У 1906 годзе Лейвік быў арыштаваны за распаўсюд нелегальнай літаратуры, і пасьля быў асуджаны на 4 гады турмы. На судзе Лейвік адмовіўся ад адваката і заявіў, што зьяўляецца прынцыповым апанэнтам царызму. Падчас ягонага побыту ў Менскім астрозе ня выключана што ён мог бачыць Якуба Коласа ці прынамсі чуў пра яго. Затым у 1910 годзе Лейвік быў пераведзены ў Бутырку ў Маскве, а пасьля сканчэньня турэмнага тэрміну быў высланы бестэрмінова ў Сібір, у Віцім Іркуцкай губэрні. Ужо ў зьняволненьні ён пачаў пісаць вершы на ідыш, і яны нават былі перасланыя і публікаваліся ў зборніку "Дух часу" у Нью-Ёрку. Тады ж Лейвік напісаў паэму "Кайданы Мэсіі", у якой адлюстраваліся ягоныя духовыя пошукі й непрыняцьце артадаксальнага юдаізму. Паасобныя вершы Лейвік адсылаў Ш. Ан-скаму, і Ш. Нігеру ў "Дэр ідышэр вэлт", але яны не былі прынятыя да друку. У 1913 годзе Лейвік уцёк з высылкі й перабраўся з дапамогай бундаўцаў у ЗША. Тут ён стаў працаваць на фабрыцы адзеньня ў Філядэльфіі, потым пераехаў у Нью-Ёрк і далучыўся да групы літаратараў "Ды юнге" (Моладзь), і друкаваўся ў зборніках, выдаваных групай.

У 1918 годзе з дапамогай Владэка (Баруха Чарнага, рэдактара і грамадзкага дзеяча) выйшаў першы зборнік вершаў Левіка "Пад замком", пра дзяцінства, турму, высылку і ўцёкі зь Сібіры. Вершы Лейвіка таксама друкаваліся ў левых амэрыканскіх газэтах і пэрыёдыках на ідыш. Шмат вершаў былі прысьвечаныя часам зьняволеньня, і як былы вязень царскіх турмаў, Лейвік набыў рэпутацыю паэта рэвалюцыйнай тэматыкі. Аднак яго больш цікавілі філязофскія тэмы, і пазьней крытыкі сталі адносіць яго да шэрагу паэтаў з плыні нэарамантызму. Лейвік стварыў шэраг паэмаў, што прарочым чынам прадказалі катастрофу эўрапейскага гэбрайства, якая надыйшла з Другой сусьветнай вайной. У паэме "Воўк", напрыклад, Лейвік вывеў жахлівую гісторыю, як рабін ператварыўся ў ваўкалака і тэрарызуе гэбраяў, што ацалелі й спрабуюць адбудаваць жыцьцё на руінах разбуранага мястэчка. Акультныя матывы ўвайшлі ў паэму Левіка "Голэм" (1921), што лічыцца шэдэўрам Г.Рейвіка, і ўжывае вядомую легенду пра тое, як праскі рабін стварыў з гліны волата, каб абараняць гэбраяў. Лейвік разглядае ў паэме тэмы пакутаў і збавеньня ня толькі гэбраяў, але, праз іхны прыклад, усяго чалавецтва. Па матывах паэмы "Голэм" была пастаўленая п'еса, што стала надзвычай папулярнай і выконвалася рознымі гэбрайскімі тэатральнымі трупамі, у тым ліку славутай "Габімай". Лейвік быў прызнаны значным і ўплывовым паэтам, але ён яшчэ доўгі час працягваў зарабляць на жыцьцё і ўтрымліваў сваю сям'ю працуючы маляром і клейшчыкам шпалераў, аддаючы гэтаму свой час днём, і ўвечары займаючыся паэтычнай творчасьцю.

Г. Лейвік збольшага прытрымліваўся ў той час левых прасавецкіх пагляд аў, як і большасьць гэбрайскіх культурніціх дзеячаў таго часу. У 1925 годзе ён наведаў Саветы, у тым ліку Беларусь і сваё мястэчка Ігумен, перайменаванае ў Чэрвень, пабачыў сваякоў і мясьціны дзяцінства. Ён сустракаўся з творцамі культуры ідыш у Саветах, у тым ліку ў Менску, дзе наведаў Інбелкульт, і ў Маскве. Цікава, што ў прамове перад прадстаўнікамі ідышмоўнай савецкай эліты, Лейвік, у прыватнасьці, сказаў, што ён не адчувае ў стваральнасьці і ў падыходах да сваёй справы дзеячоў-ідышыстаў у Саветах тога патасу, трымценьня й замілаваньня сваёй культурай, якія ён адчуў у беларусаў, калі наведаў Інбелкульт. "У вас жа адчуваецца нейкі страх, нейкая скурчанасьць, брак упэўненасьці" (газэта "Дэр Эмэс" 21 верасьня 1925 г.). Дзеля гэтага і дзеля "ідэалізму" і "сацыяльнага пэсымізму" ў ягонай творчасьці савецкія функцыянэры ставіліся да Лейвіка з насьцярожанасьцю. Пазьней ён быў залучаны ў шэрагі "фашызаваных ідышыстаў", супраць якіх нібыта мусіла змагацца савецкая культура на ідыш. Лейвік адлюстраваў уражаньні ад наведзінаў родных мясьцінаў у шэрагу вершаў, дзе ён, між іншага, успамінае як дэспата і свайго бацьку, і працаўніцу-маці, і бацькоўскую хату, зь якой мусіў рана выбрацца ў сьвет.

З часам Лейвік усё далей адыходзіў ад левай ідэалёгіі й падтрымкі Саветаў, а з 1929 году перастаў друкавацца ў амэрыканскай камуністычнай прэсе, выказваючы свой пратэст супраць арабскіх пагромаў у Палестыне. У гэты час Левік асабліва засяроджваецца на асэнсаваньні чалавечага быцьця ў сьвеце і ягоных маральных і эстэтычных аспэктах, карыстаючы для гэтага пераважна біблійныя сюжэты й сярэднявечныя легенды. Вынікам сталі драматычныя паэмы "Камэдыя збавеньня – Голэм мроіць"(1934), "Ахвяраваньне Ісака" (1935), "Садом" (1937), "Абэляр і Элаіза" (1936). Тады ж Лейвік наведаў Ізраіля (Палестыну) і рабіў заявы, блізкія да сыяніцкіх. Пасьля падпісаньня Саветамі пакту Молатава-Рыбентропа і пачатку Другой сусьветнай вайны Г. Лейвік перарваў усе адносіны з савецкімі прадстаўнікамі. Калі ў 1942 годзе савецкі Яўрэйскі Антыфа-

заканчэньне на бачыне 3



# Янка ЗАПРУДНІК
## (09.08.1926 – 26.05.2022)

26 траўня пайшоў з жыцьця сп. Янка Запруднік (Сяргей Вільчыцкі), навуковец-гісторык, грамадскі дзеяч, паэт і мэмуарыст, адданы патрыёт Бацькаўшчыны-Беларусі. Ён нарадзіўся 9 жніўня 1926 года ў Міры ў сям'і земляроба. Скончыў пачатковую школу ў Міры. З прыходам Саветаў ягоная сям'я была прызначаная на вываз у чэрвені 1941 году ў Сібір, вывазцы перашкодзіў выпадак.

Падчас нямецкай акупацыі скончыў прагімназію ў Баранавічах і некалькі клясаў гандлёвай школы, уступіў у шэрагі Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). Улетку 1944 году ён быў змушаны пакінуць Беларусь, далучыўся да нямецкай службы дапамаговых лётніцтва, і на некалькі месяцаў трапіў на вайсковую службу. У 1945 годзе ягоная дывізія перайшла да амэрыканцаў, і ён апынуўся ў палоне. Каб патрапіць у беларускі ДП-лягер у Рэгенсбургу, ён мусіў зьмяніць імя, бо палонным не давалі статус ДП (перамешчанай асобы). Пераехаў пасьля ў лягер Міхельсдорф, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (1947), браў актыўны ўдзел у скаўцкім руху.

Затым у 1948 годзе разам з 11-цю іншымі беларускімі хлопцамі, што стварылі групу "Дванаццатка", перабраўся ў Вялікабрытанію, дзе тры гады працаваў у вугальных шахтах. У Брытаніі Янка Запруднік таксама браў актыўны ўдзел у жыцьці беларускай грамады, быў актыўным дзеячам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1950 годзе пераехаў у Бэльгію на вучобу, дзе ў 1954 годзе скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту. Зь верасьня 1954 году працаваў у беларускай сэкцыі "Радыё Вызваленьне" (пазьней "Радыё Свабода").

У 1957 годзе Янка Запруднік пераехаў у ЗША. Ён працягнуў працу на "Радыё Свабода" ў Нью-Ёрку, актыўна друкаваў нарысы з гісторыі й палітычнага жыцьця ў пэрыядычных выданьнях беларускай эміграцыі. Ён працягваў сваю адукацыю і абараніў у 1969 годзе ў Нью-Ёрскім унівэрсытэце дысэртацыю "Палітычнае змаганьне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906-1917 гг.)", атрымаўшы ступень доктара гісторыі. Затым ён выкладаў гісторыю Расеі й СССР у Куінс-каледжы гарадзкога ўнівэрсітэту Нью-Ёрку. Ён стаў адным з заснавальнікаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастцтва.

Янка Запруднік быў адной з найвыбітных постацяў сярод паваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША, браў актыўны ўдзел у грамадзкім і рэлігійным жыцьці беларусаў Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі. Ён рэдагаваў газэту "Беларус" (1980—1995), быў актывістам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, актыўным дзеячам беларускіх праваслаўных парафіяў. Я. Запруднік таксама даносіў да амэрыканцаў веды пра Беларусь і беларусаў. Ён аўтар шматлікіх публікацыяў у галіне беларусаведы, сярод якіх кнігі: "Паўстаньне на Беларусі 1863 года: «Мужыцкая Праўда» і "Лісты з-пад шыбеніцы" (The 1863 uprising in Byelorussia: "Peasants' Truth" and "Letters from beneath the Gallows) / тэксты і каментарыі" (разам з Томасам Бэрдам, 1980), "Спадчына бацькоў: «Агледзіны»: Да 100-годзьдзя ад нараджэньня Я. Купалы й Я. Коласа" (1982), манаграфіі "Belarus: At Crossroads in history" (1993); беларуская версія "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", 1996), "Historical dictionary of Belarus" (Гістарычны слоўнік Беларусі, 1998; разам з Віталём Сіліцкім, 2007), "Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць аб дванаццаці беларускіх хлапцах у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бэльгіі (1946-1957 гг.)" (2002), "Беларускія фэстывалі і выстаўкі ў Нью-Джэрзі: палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011 гг.)" (2013), "Па гарачых сьлядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952-1959 гг.: Унівэрсытэт у Бэльгіі й газэта «Бацькаўшчына», Радыё Вызваленьне / Свабода ў Мюнхэне і Нью-Ёрку" (2015). Янка Запруднік быў старшынём рэдакцыі выданьня ангельска-беларускага слоўніка Валянтыны Пашкевіч, і ўдзельнікам вялікай колькасьці разнастайных іншых выдавецкіх праектаў, друкаваўся ў пэрыёдыках "Запісы" і альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа "Беларус".

Янка Запруднік вядомы таксама і як паэт, ён пісаў вершы пад псэўдонімам Сяргей Ясень. У 2017 годзе выйшаў зборнік ягоных твораў "Берагу майго зарніцы: паэзія (1946—2017); «Дзёньнік» (1949—1954)". Я. Запруднік быў дабрадзеем, падтрымліваў мноства беларускіх задумаў, справаў і праектаў, апекаваўся гісторыкамі і навукоўцамі на Бацькаўшчыне, дзе быў чаканым госьцем, і якую шмат разоў наведваў. Дом Янкі і Надзеі Запруднікаў у Сомерсэце (Нью-Джэрзі) заўсёды быў гасьцінным і адкрытым для суродзічаў-беларусаў.

Янка Запруднік заўсёды застанецца прыкладам сапраўднага патрыёта, руплівага зьбіральніка ведаў пра Беларусь, нястомнага і ахвярнага культурніцкага і грамадзкага дзеяча, уважлівага сябра і прыемнага, аптымістычнага чалавека. Вечная яму памяць!

***Віталь ЗАЙКА***

*заканчэньне з бачыны 2*

шыстоўскі Камітэт зьвярнуўся па дапамогу да амэрыканскіх "братоў-гэбраяў", Лейвік у адказ напісаў, што ён, як і ўсе гэбраі, гатовы дапамагчы, але задае пытаньні: "Чаму пра братнія пачуцьці ўспомнілі толькі цяпер? Мы заўсёды лічылі вас братамі, нават калі клікалі нас "падпальшчыкамі вайны", а самыя вы два гады жылі ў міры й сяброўстве з Гітлерам, замоўчвалі злачынствы яго, тады як мы вялі зь ім бескампрамісную барацьбу".

З заканчэньнем Другой сусьветнай вайны Г. Лейвік дапамагаў гэбраям, што апынуліся ў лягерах перамешчаных асобаў у Эўропе, прыяжджаў падтрымаць тых, хто перажыў Галакаст , выступаў са сваімі новымі вершамі.

Катастрофе эўрапейскага гэбрайства Лейвік прысьвяціў драмы ""Цуд у геце" (1940), "Я ня быў у Трэблінцы" (1945), "Вясельле ў глыбокім лесе" (1949). Трагедыя вайны і дэградацыя чалавецтва падчас яе знайшлі адлюстраваньне ў паэме "У дні Іява" (1953). Г. Лейвік памёр у 1962 годзе, пасьля цяжкой хваробы. Пад канец жыцьця ён быў прызнаны клясыкам літаратуры ідыш, ягоныя творы шмат публікаваліся, быў выдадзены поўны збор твораў. Шмат якія зь іх скіраваныя да родных мясьцінаў у Беларусі.

***Віталь ЗАЙКА***



# Зламаць хрэбет зьверу

На працягу студзеня-лютага 2022 году (да 24. 02. 2022) расейская агентура ва Ўкраіне і за мяжой інтэнсіўна распрацоўвала тэму, што Расея не зьбіраецца (ня ў стане, не плянуе, ня будзе і т. п.) нападаць на Ўкраіну, што Пуцін блефуе, каб шантажаваць Захад і г. д. Асаблівы посьпех у такой прапаганьдзе мелі замежныя экспэрты-агенты супэр-клясу, у эрудыцыю і перакананасьць якіх шмат хто верылі безаглядна. (Вельмі стараўся Андрэй Іларыёнаў)

17-га студзеня 2022 году пачалася акупацыя Беларусі расейскім войскам. Захад не зварухнуўся. "Экспэрты-агенты" працягваюць баяць пра блеф Пуціна. І гэта тады, калі на вачах ўсяго атлянтычнага сьвету адбывалася геапалітычная катастрофа – расейскі вайсковы захоп Беларусі.

Без захопу Беларусі, практычна, не магла б пачацца маскоўская агрэсія супраць Украіны. Беларусь ёсьць важнейшая стратэгічная тэрыторыя ў гэтай частцы Эўропы пры існуючай раскладцы сілаў. Хто валодае гэтай тэрыторыяй, той валодае ініцыятывый наступу. Расейцы разумелі гэта з 1991 году (адсюль іхняя палітыка і ўнутранная акупацыя Беларусі ў 1994-м). Украінцы зразумелі тое (нажаль) толькі 24-га лютага 2022 году. Эўраатлянтыцкія краіны, мне здаецца, да канца не разумеюць таго і цяпер, хаця стратэгічная пагроза для іх з боку Расеі стала рэальнасьцю. Лінія сутыкненьня з Расеяй, фактычна, ужо цяпер (пасьля ўвядзеньня ў Беларусь расейскага войска) праходзіць па межах Польшчы, Летувы, Латвіі. Калі, напрыклад, Эўропа з Расеяй вымусяць Украіну пайсьці на "дыялёг" з агрэсарам і заключыць гнілы мір, то Калінінградзкі калідор (90 км) будзе зроблены праз Летуву за лічаныя гадзіны (магчыма нават без адзінага стрэлу). Пасьля чаго пачнуцца чарговыя "перамовы".

І вось пад акампанэмэнт блефу агентуры аб ненападзе 24 лютага Расея напала на Ўкраіну. "Экспэрты-агенты" – часова зьніклі, выскачыў другі расейскі эшалён, "сьпікеры" якога (асабліва цяпер) гэтак разумна, рацыянальна, эрудыравана, і пастаянна пераконваюць усіх, што Пуцін ня выкарыстае ядзерную зброю, бо гэта яму на шкоду, бо гэта яму канец, бо гэта не рацыянальна, немагчыма і г. д. Вельмі разумныя довады, між іншым, яны дэманструюць, "эўраразумнасьць" якіх, аднак, выклікае толькі трывогу, бо розум тут не патрэбны.

Непатрэбны па простай формуле, сфармуляванай самымі расейцамі – "умом Расію не понять". У Расеі не жывуць заходняй лёгікай.

Расейскага ядзернага ўдару, вядома, можа ня быць (такое малаверагодна). Але ён якраз магчымы па расейскай формуле. І магчымасьць яго здаецца тым большая, чым разумней даказваюць яго немагчымасьць заходнія разумнікі і эрудыраваная расейская агентура.

Калі б такое здарылася, то можна абсалютна дакладна прадбачыць, што ядзерны ўдар будзе нанесены толькі з тэрыторыі Беларусі і толькі з пляцоўкі каля Астравецкай АЭС (для карэкцыі ўдару ў адказ і для зьнішчэньня Вільні і паловы Беларусі не расейскай зброяй).

Дзеля эфэктыўнай агрэсіі і пазьбяганьня стратаў мордару якраз і патрэбна чужая тэрыторыя. Звыклая зьява для маскоўцаў. (Можа хто ўжо забыўся як расейцы ў 1996 годзе апусьцілі чарнобыльскія радыяцыйныя воблакі на Беларусь.)

Каб ядзернай правакацыі не адбылося, трэба зламаць хрыбет зьверу, у руках якога апынуўся лёс народаў. На жаль, – час бяжыць, ніхто не сьпяшае. Да вайны на ўсходзе сталі прывыкаць. Таму небясьпека застаецца.

*5 травень 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

P. S. ЗАЎВАГА. Адносна "расейскай формулы" ёсьць тысячы штодзённых прыкладаў (дарэчы, таксама цяпер у падзеях расейска-ўкраінскай вайны). За часы нападу маскоўцаў на Чачэнію, я добра кантактаваў з чачэнцамі. Ахмет расказваў мне, што на падворку ягонага дому ў Грозным расейскія жаўнеры сядзелі за столікам і гралі ў карты. Усё спакойна, звыкла, будзённы расейскі мат. Раптам адзін расеец пазяхнуў і гэтак "па-пацанскі" кажа: "да ладна, ребята, чэво там…", бярэ гранату і кідае на стол. Выбух – усіх разносіць разам з "жартаўнікам".

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

В. Біліда .................60
Д. Біліда .................60
В. Чарняк .................60

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** ***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня", калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні".*** *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***